Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017
Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".
12+
27 красавіка 2018 года №17 (1200)




## Хлопец з Вілейкі стаў чэмпіёнам Еўропы па скачках па батуце

старонка 22

## Кляновы сіроп, варэнне з фізалісу і іншыя рэцэпты гаспадара з Хоўхлава

старонка 5



ISSN 1991–7155
9 771991 715006 17

# Чым сёння жыве завод металаканструкцый

У фарбавальным цэху завода металаканструкцый у Маладзечне.

старонка 2

Фота Наталлі ТУР.



Праца з металам выглядае вельмі відовішчна. Больш фота з завода глядзіце на сайце rh.by.



Зваршчыкі рыхтуюць канструкцыю, якую чакаюць на аб'екце ў Петрыкаве.

# Чым сёння жыве завод металаканструкцый

МАЛАДЗЕЧНА

**Пасля з'яўлення на адным з тэлеканалаў публікацыі пра тое, што на градаўтваральным заводзе тры месяцы не плацяць заробкі, кіраўніцтва запрасіла прадстаўнікоў мясцовай прэсы на размову, каб патлумачыць сваё бачанне становішча прадпрыемства і перспектыў.**

З журналістамі размаўлялі памочнік генеральнага дырэктара **Віталь Дзмітрыеў** (на фота) і намеснік дырэктара па ідэалогіі і агульных пытаннях **Алена Арцюх**.



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

– Ад 2003 года што я бачу ў горадзе – праспект вымер, – пачаў размову адміністратар. – У што ператвараецца горад? У Маладзечна-сіці. А каб мець магчымасць нешта купляць, трэба зарабляць.

## Асаблівасці працы завода

– Толькі з'ехалі кліенты з Расіі – неабходна фарміраваць партфель заказаў і адпрацоўваць рынак, – расказвае Віталь Дзмітрыеў. – Цяпер мінскія фірмы адна на перамовах, іншая чакае. Ідзе грандыёзная рэканструкцыя "Гродназота". Шмат зваротаў, але заказы трэба ацэньваць, каб яны не былі стратнымі. І каб цяперашняя сітуацыя на заводзе не пагаршалася.

Па рэнтабельнасці гадавой работы летась завод з -29% выйшаў -8%. Палепшылі 21 пункт.

– Даўгі істотныя, але сфарміраваныя за чатыры гады пазыкі за адзін раз выплаціць немагчыма, – кажа памочнік дырэктара. – Іх трэба адпрацаваць. Цяпер можна скарыстаць магчымасць спісаць. Але калі можна адпрацаваць і разлічыцца, то навошта "кідаць людзей" і не даваць тыя грошы, якія мяркуюцца. Цяпер доўгу крыху больш за 20 мільёнаў рублёў.

Дзмітрыеў тлумачыць складанасць працы на сённяшнім рынку:

– Адны плацяць устаноўленую рынкам цану, іншыя хочуць эканоміць. Узнікае шэраг тэндарных пытанняў. Заказчык спрабуе без перадаплат размясціць заказ з адтэрміноўкай ці аплатай 30-60-90. Калі ўпершыню пачуў пра 30-60-90, лічбы нагадалі банкаўскі дэпазіт. Завод бярэ тэндар, але перадаплаты няма. Разлік праз 60 ці 90 сутак, а трэба зрабіць заказ сёння. Электраэнергія, метал закупіць трэба, самае балючае пытанне – забяспечыць зарплатай работнікаў. Арыфметыка не складваецца. Заказ выканалі. Метал узялі ў пазыку, энергія пачакае, а як людзям зарплату выплаціць? Рынак дыктуе свае ўмовы. Аднак завод не можа выйсці за межы калькуляцыі цаны прадукту.

Кіраўніцтва тлумачыць, што нявыплата зарплаты цягам трох месяцаў – няпраўда. З-за таго, што разлікі адбываюцца вышэй апісаным чынам, зарплату выдаюць штомесяц, але часам не ў поўным аб'ёме. Па калектыўнай дамове прадугледжана, што заробак павінны быць аплачаны на 30 чысло бягучага месяца ў поўным аб'еме. На рахунак паступаюць грошы, але іх недастаткова для поўнага пагашэння зарплаты за раз.

– Не было выпадку, каб у нейкім месяцы ўвогуле не выдаваліся грошы, – кажа Дзмітрыеў. – Сёння, на 24 красавіка, выплаты за сакавік былі нават раней за 30-е. 56% сакавіцкага заробку ўжо выплачана. Да 28-га застаецца 44%. Чакаем грошы ад заказчыкаў за выкананую работу. Можа атрымацца, што грошы не паступяць на 28-га, а прыйдуць 2 ці 3 мая. Атрымліваецца, 56% ужо зроблена, а 44% можам выплаціць з перахадам. Такім чынам, заробак выплачваецца рэгулярна, але не ў поўным аб'ёме – па частках.

Пры выплаце заробкаў у першую чаргу забяспечваюць дзіцячыя дапамогі. Яны ідуць са сродкаў завода тым работніцам, якія ў дэкрэтным адпачынку і працуюць на заводзе.

– Мы пачалі працаваць па давальнай схеме, – удакладняе кіраўніцтва. – Заказчык прывозіць свой метал. Але для абароту трэба грошы – на заробак і камплектуючыя. Я папрасіў давесці прапанову міністру, каб на значных будоўлях было адведзенае месца – 10, 15, 20% ад аб'ёму загрузкі. Я разумею, антыманапольнае заканадаўства. Аднак прыватныя арганізацыі цэны могуць дэмпінгаваць, прадаць за 2,5 рубля тое, што на рынку каштуе 3. Прыватнік два заказы забраў у дзяржпрадпрыемства – і яно ляжа. А мы не можам даваць цану ніжэй за 3 рублі, таму што гэта цягне наўмысныя страты. А страты ўтвораць даўгі і цэлы ланцужок наступстваў, вымываецца абаротка.

**Стадыён "Дынама" завод закончыў у верасні 2017 года. На сёння канчатковы разлік яшчэ не атрымалі. Калі частку сумы пералічылі – пусцілі на закрыццё 10% недаплаты за студзень, закрылі люты, часткова сакавік. І так з кожнага заказу.**

– Калі б завод быў загружаны на 1500 тон на месяц, пытанні б не ўзніклі, – тлумачыць адміністратар. – Цяпер маем 700-800 тон, гэта 50% ад штатнай загрузкі. Таму вытворчасць працуе ў адну змену. Пры штатнай загрузцы завод можа працаваць у дзве змены, а пры неабходнасці выканання графіку – да трох змен.

У снежні Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва выдала загад аб рэарганізацыі завода.

– Гэта нас тармазнула, – кажа Дзмітрыеў. – Што такое загад аб рэарганізацыі пры наяўнасці запазычанасці? Каля 200 званкоў і наведванняў ад партнёраў і заказчыкаў з пытаннем: "Што ў вас адбываецца?". Партфель заказаў рэзка скараціўся з фармуліроўкай "мы пачакаем, што ў вас будзе далей". Калі падобны загад прыходзіць, мы абавязаныя паведаміць крэдыторам. Гэта стварае калапс. Пасля перагаворы на канале міністэрства адмяніць загад. Аднак сітуацыя выбіла чатыры месяцы работы. Рэарганізацыю хацелі такую: завод падзяліць на дзве часткі. Другую вытворчасць пакінуць ЗМК, а першую зрабіць новай юрыдычнай асобай.

Сярэдні заробак па заводзе – 600 рублёў. Ёсць запазычанасць перад ФЗСН, электрасеткамі, падатковай. У лютым 419 тысяч рублёў пералічылі падатковай. Ямы паміж дэбіторскай і крэдыторскай запазычанасцю няма. Выплачваюць валавы доўг па крэдыторскай запазычанасці.

– Вытворчасць наладжаная так, каб забяспечыць працай, выплаціць заробак і па магчымасці разлічыцца з даўгамі. Напрыклад, для "Водаканала" зрабілі канструкцыі ў лік пагашэння доўгу.

На заводзе працуе сталовая, дзе сярэдні чэк абеду 2,50 рубля. Работнікі абедаюць па прапусках, а пасля суму абедаў за месяц спісваюць з заробку.

## Праблем з кадрамі няма, шукаюць гендырэктара

Усе штатныя працаўнікі выходзяць штодня. У месяцы пры патрэбе могуць зрабіць дзень ці два выхадных. Заробак налічваецца па сумарным уліку рабочага часу. Дзень не выйшаў, пасля паўтары змены адпрацаваў – усё ідзе па нормах.

Адток спецыялістаў невялікі. Калі гэта работнікі дапаможных падраздзяленняў, праблем ніякіх няма. Калі ж звальняюцца з цэха звараборкі, страты адчувальныя. У гэтым цэху менавіта тыя людзі, якія займаюцца зборкай канструкцый. Кожны заказ індывідуальны, і трэба быць прафесіяналам, каб умець правільна яго збіраць па чарцяжах.

Завод разглядае магчымасць аптымізацыі. З часам даводзіцца мяняць парк абсталявання.

– Ёсць участкі, на якіх працуюць пяць чалавек, – расказвае памочнік дырэктара. – Іх усіх можна замяніць камбінаваным станком. Запускаеш металічны ліст – выходзіць гатовая дэталь, якую можна адправіць на зборку. Пры такой аптымізацыі затратнасць скарачаецца – заробак не плаціш, энергарэсурсы адны і тыя ж. А вось станкоў, якія збіраюць металаканструкцыі, у прыродзе не існуе.

Сёння на пасаду гендырэктара Міністэрства па архітэктуры і будаўніцтве пакуль нікога не прызначыла. Абавязкі выконвае першы намеснік **Дзмітры Купрыянаў**.

## Шукаюць інвестара

Цяпер завод вядзе перамовы з двума патэнцыйнымі інвестарамі. Умовы для інвестараў такія – пакінуць галоўную вытворчасць профільнай і разгледзець магчымасці другой. Звароты былі з Германіі і Польшчы.

– Пры загрузцы ў 1500 тон на месяц ЗМК можа за паўгода пагасіць усе даўгі і цягам наступнага года правесці мадэрнізацыю на выпуск любой запатрабаванай прадукцыі, – расказвае Дзмітрыеў. – Пры такой працы завод можа даваць значную долю падаткаў у бюджэт раёна.

Завод цяпер вырабляе канструкцыі для "Гродназота", Петрыкаўскага ГАК, перыядычна для АЭС.

Фота Наталлі ТУР.



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

# Палатняная торба або пластыкавы пакет: што выбраць







Інфаграфікі Аляксандры ПАРАХНІ. Крыніца дадзеных: green-projects.pl.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 19.04 руб. | 26.04 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2,0256 | **2,0032** |
| Еўра | 2,5041 | **2,4438** |
| Злоты, 10 | 6,0031 | **5,8009** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2925 | **3,2454** |
| Грыўня, 100 | 7,7483 | **7,6240** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ"** | **18.04** | **25.04** |
| Еўра | 2.4800/2.5150 | **2.4150/2.4470** |
| Долар ЗША | 2.0100/2.0400 | **1.9800/2.0080** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 18.04 | 25.04 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 18,45 | **18,45** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,98 | **2,98** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,85 | **6,85** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,10 | **4,10** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 12,00 | **12,0** |
| Карп "Элітны" | 4,50 | **-** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Алей "Залатая семачка", 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 4,80 | **5,20** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,85 | **1,85** |
| Агуркі, 1 кг | 2,95 | **3,80** |
| Баклажаны, 1 кг | 4,70 | **5,80** |
| Бульба, 1 кг | 0,80 | **0,75** |
| Буракі, 1 кг | - | **0,30** |
| Капуста, 1 кг | 0,70 | **1,50** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 0,68 | **2,00** |
| Морква, 1 кг | 1,29 | **0,99** |
| Памідоры, 1 кг | 3,95 | **3,99** |
| Перац, 1 кг | 5,40 | **4,95** |
| Радыс, 1 кг | 3,80 | **2,00** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,79 | **0,79** |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | **4,99** |
| Шампіньёны, 1 кг | 4,60 | **-** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,20** |
| Бананы, 1 кг | 3,50 | **2,95** |
| Вінаград, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Гранаты, 1 кг | 3,90 | **8,00** |
| Грушы, 1 кг | 2,95 | **2,95** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 3,20 | **2,79** |
| Ківі, 1 кг | 3,50 | **3,95** |
| Лімоны, 1 кг | 3,70 | **3,80** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,30 | **4,30** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,89 | **2,29** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Мёд, 0,5 л | 8,00 | **-** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |

## Жыхар Вілейшчыны спускаўся ў падвал, зламаў сабе шыю і загінуў

ВІЛЕЙКА

Раніцай 21 красавіка ў Вілейскі РАУС патэлефанавала жыхарка Нарочы, што на Вілейшчыне, і паведаміла, што ў чацвер у яе знік муж.

У пятніцу жанчына шукала мужа самастойна з дапамогай сваякоў. Калі ж муж не з'явіўся да раніцы суботы, вырашыла звярнуцца ў міліцыю. Па словах жонкі, муж ніколі не сыходзіў з дому.

У хуткім часе пасля звароту жонкі міліцыянеры знайшлі труп зніклага 60-гадовага мужчыны ў падвале суседняга дома. Але, па словах намесніка начальніка Вілейскага РАУС **Кацярыны Млечкі**, ніякага крыміналу ў здарэнні не было.

Мужчына чамусьці зайшоў у падвал суседняга дома. Верагодна, ён пераблытаў дзверы падвала з уваходнымі, кажа Кацярына Аляксандраўна.

У падвале быў вельмі круты спуск. Мужчына, відаць, спатыкнуўся, упаў і зламаў сабе шыю.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Каля былога клуба "Магніт" памёр мужчына

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося 23 красавіка каля сямі раніцы.

Пра выпадак распавёў старшы следчы РАСК **Юры Багушэвіч**. 46-гадоваму мужчыну стала кепска на вуліцы Касманаўтаў, недалёка ад клуба "Блэк Фокс" (былы "Магніт").

Прахожыя выклікалі "хуткую дапамогу". Аднак праз рэанімацыйныя дзеянні вратаваць мужчыну не атрымалася.

Устаноўлена, што мужчына ўпаў сам, яго не білі.

Загінулы – жыхар Маладзечна 1972 года нараджэння. Наколькі вядома следству, быў раней судзімы.

Прычына смерці высвятляецца праз судовамедыцынскую экспертызу.

Зоя ХРУЦКАЯ.

## У мікрааўтобусе жыхара Астраўца знайшлі 680 літраў спірту

АСТРАВЕЦ, СМАРГОНЬ

Каля вёскі Белае на Смаргоншчыне затрымалі мікрааўтобус "Фіят", які перавозіў спірт без акцызных марак.

Аўтамабіль супрацоўнікі ДАІ і аддзела з эканамічнай злачыннасцю спынілі каля 15:00.

У ім жыхар Астраўца, які нідзе не працуе, вёз 680 літраў спірту. Спірт быў расійскай вытворчасці.

Паводле сайта МУС.

## Жыхар Куранца ўсіх пачаставаў марожаным за чужыя грошы

ВІЛЕЙКА

15 красавіка надвор'е было сонечнае. Таму ляснік з Куранца вырашыў праветрыць свой аўтамабіль.

Ён адчыніў у машыне ўсе дзверы, а сам пайшоў да знаёмага.

Калі прыйшоў у двор, убачыў, што кашалёк ляжыць не ў бардачку, а на сядзенні машыны. Гаспадар узяў кашалёк і заўважыў, што там няма 200 рублёў. Мужчына патэлефанаваў у міліцыю.

Крадзеж раскрылі ў той жа дзень.

Падчас міліцэйскай праверкі стала вядома, што адзін непрацуючы жыхар Куранца зайшоў у краму і ўсіх наведнікаў пачаставаў марожаным.

У мужчыны знайшлі скрадзеныя грошы. Праўда, не ўсе, а 120 рублёў. Астатнія ён патраціў на пачастунак, распавяла Кацярына Млечка, намеснік начальніка Вілейскага РАУС.

Фігуранта затрымалі.

Аксана ЯРАШОНАК.

## На пажары ў Ленкаўшчыне загінуў мужчына

МАЛАДЗЕЧНА

20 красавіка каля чатырох гадзін раніцы ў Маладзечанскі ГРАНС паведамілі пра пажар.

Гарэў жылы дом у вёсцы Ленкаўшчына Маркаўскага сельсавета.

На пажар выехала пяць адзінак тэхнікі. Цалкам згарэў дах і веранда. Пажарнага апавяшчальніка ў доме не было.

Каля пяці гадзін раніцы ў выгаралым пакоі ратавальнікі знайшлі труп 48-гадовага гаспадара.

Мужчына жыў адзін, не працаваў. Папярэдняя прычына – неасцярожнасць пры курэнні.

**ГРАНС Маладзечна нагадвае правілы бяспекі:**

печы і коміны неабходна пачысціць, адрамантаваць, пабяліць, прыбраць трэшчыны; нельга распальваць печ з дапамогай лёгкаўзгаральных вадкасцяў; на драўлянай падлозе каля печы неабходна прыбіць металічны ліст 50 на 70; не перапальваць печ; за дзве гадзіны да сну перастаць паліць печ.

Валянціна СОПАТ,
Маладзечанскі ГРАНС.

# Следчы: "Ніколі не бачыла столькі рэчдокаў – горы"

## На Валожыншчыне скралі 16 самазвалаў пяску

ВАЛОЖЫН

**Пра крадзеж расказала старшы следчы Валожынскага раённага Следчага камітэта Юлія Селятыцкая.**




Фота newauto.kz

Рэчдокамі па справе сталі горы скрадзенага пяску. Ілюстрацыйнае фота.

Адна фірма выйграла тэндар на выкананне прац для іншай арганізацыі, што размяшчаецца ў Валожынскім раёне. Для выканання працы фірма пастаянна падвозіла да месца работ машыны пяску.

Пясок вазілі адным і тым жа маршрутам. Аднак 2 красавіка майстар загадаў кіроўцу вазіць пясок да іншага месца. Падначалены здзівіўся, але рабіў так, як загадаў кіраўнік. Мясцовыя жыхары вёскі, праз якую ляжаў новы маршрут, абурыліся, што самазвалы псуюць іх дарогу і паскардзіліся ў ДАІ.

На чарговым рэйсе інспектар спыніў кіроўцу самазвала, каб праверыць дакументы. Паводле пуцёўкі, пункт прызначэння мяняцца не павінны быў, так што пясок вазілі не туды, куды трэба было гаспадару. Кіроўца адказаў, што выконвае загад майстра.

Як толькі міліцыя спыніла майстра, той адразу прызнаўся, што пясок скраў. Патлумачыў, што між іншым яго знаёмы доктар сказаў, што някепска было б падсыпаць дарогу да яго ўчастка. Са слоў майстра, ён вырашыў, што варта дапамагчы паважанаму доктару.

Меркавалася, што для падсыпкі прывязуць 24 самазвалы пяску, але паспелі выгрузіць 16.

Доктар следству распавёў, што пра пясок сказаў майстру між іншым. Абодва сцвярджаюць, што за пясок доктар нічога не плаціў.

Майстар ужо выплаціў 889 рублёў шкоды. Супраць яго ўзбуджаная крымінальная справа па артыкуле "Крадзеж праз злоўжыванне службовым становішчам".

Фірма, дзе працуе майстар, паведаміла, што не мае супраць абвінавачанага прэтэнзій, шкоду той пагасіў.

З улікам гэтых абставін, а таксама прызнання віны, майстар можа атрымаць у судзе толькі адміністрацыйную адказнасць, удакладніла следчы.

– Такога ў маёй практыкі яшчэ не было, – падзялілася Селятыцкая. – Бывалі розныя рэчдокі, але ўпершыню так, каб адразу горы!

Зоя ХРУЦКАЯ.

## Міліцыя шукае пару, якая прадала віляйчаніну аўтамабіль з падробленымі дакументамі

ВІЛЕЙКА

**У дзяжурную часць Маладзечанскага РАУС звярнуўся 45-гадовы віляйчанін. Ён паведаміў, што яму прадалі машыну з падробленым ідэнтыфікацыйным нумарам і дакументамі.**

Як расказаў пацярпелы, аўто ён купіў у маладой пары, заключыў дагавор куплі-продажу. Але праверку на юрыдычную чысціню вырашыў не праводзіць, паверыў прадаўцам.

Падчас праверачных мерапрыемстваў міліцыянеры высветлілі меркаваную схему незаконнай здзелкі. Хутчэй за ўсё, авантурысты незаконна прыгналі аўто з Еўропы. Пасля размясцілі на адным з інтэрнэт-сайтаў аб'яву аб продажы машыны і чакалі свайго пакупніка. Ім стаў 45-гадовы жыхар Вілейскага раёна. Мужчына даўно прыглядаў аўто менавіта такой маркі, яго адразу зацікавіла прапанова прадаўцоў.

Як расказаў оперупаўнаважаны аддзялення крымінальнага вышуку Маладзечанскага РАУС **Іван Корпік**, разлічваючы на шчырасць і станоўчы вынік здзелкі, пацярпелы захапіў патрэбную суму і адправіўся на сустрэчу. Незаконная здзелка па продажы "КІЯ Спортэдж" адбылася ў сталіцы. Машыну прадаўцы ацанілі ў 14 тысяч долараў.

Як патлумачыў заяўнік, пры сустрэчы з фігурантамі ніякіх падазрэнняў на іх конт не ўзнікла. Пара прадаўцоў пераканаўча расказвала пра сябе і аўто. Расказалі, што доўга займаюцца аўтамабільным бізнесам, прыганяючы машыны з Расіі.

Пацярпелы без сумненняў заключыў дагавор куплі-продажу, нават не прагледзеўшы іх, атрымаў "дакументы" і паімчаў на жалезным кані дадому. Але пры рэгістрацыі ў ДАІ сутыкнуўся з праблемай. Высветлілі, што нумары і дакументы падробленыя.

Па дадзеным факце міліцыя праводзіць праверку.

Паводле УУС
Мінаблвыканкама.

## Сышоў з дому 17 год таму: міліцыя шукае маладзечанца

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанскі РАУС шукае без звестак зніклага Анатоля Рыгоравіча Шырко.**



Мужчына нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Вялікае Сяло, што на Маладзечаншчыне.

Раней жыў па адрасе: Маладзечна, вуліца Будаўнікоў, дом 11-а, кватэра 86.

У снежні 2001 года ён сышоў з дому і да сённяшняга дня яго месцазнаходжанне невядомае.

Грамадзян, якія ведаюць пра тое, дзе цяпер Анатоль Шырко, просяць паведаміць у Маладзечанскі РАУС па тэлефонах: **8 (0176) 749683, 8(0176) 770312, 8 (0176) 771656** або **102.**

**Юры КАБАКОЎ,**
**намеснік начальніка Маладзечанскага РАУС.**

# Кляновы сіроп, варэнне з фізалісу і іншыя рэцэпты гаспадара з Хоўхлава

МАЛАДЗЕЧНА

**Паўлітровая бутэлечка кляновага сіропу ў Канадзе каштуе 30 долараў, а жыхар Хоўхлава Сяргей Кічыгін кажа, што не прадаў бы яго ні за якія грошы.**





Фота Наталлі ТУР.

Сяргей Кічыгін частуе сваім марынаваным фізалісам і кляновым сокам.

І не толькі таму, што працэс здабывання кляновага сіропу доўгі, а таму што гэты сіроп – сапраўдная скарбніца здароўя.

Кляновы сок пачынае ісці раней за бярозавы амаль на месяц.

– Яшчэ замаразкі, а сок ідзе. Ноччу струменьчык замярзае, а днём ідзе салодкі-салодкі сок. Разоў у 15 саладзейшы за бярозавы, – кажа Сяргей Кічыгін.

Канешне, можна было б назапасіць соку і піць яго, але, прачытаўшы ў інтэрнэце пра карысць менавіта кляновага сіропу, Сярей Кічыгін упершыню вырашыў паспрабаваць самастойна выпарыць яго.

– Калі казаць пра карысць сіропу, то ў ім ёсць каля 50 розных мікраэлементаў, у тым ліку фосфар, калій, магній, вітаміны групы В. Добры антыаксідант, дапамагае змагацца з анкалогіяй, сок – антысептык.

Па норме з 20 літраў соку павінна было атрымацца 500 грамаў сіропу.

Сяргей паставіў вялізную каструлю, наліў каля 20 літраў соку.

– З каструлі трэба было выпарыць 11,5 літра вады. Я паставіў на газ сок раніцай і, напэўна, гадзін праз пяць толькі скончыў. Каструля нічым не закрываецца, проста выпарваецца вада, самае каштоўнае застаецца ў каструлі.

На наступны год, кажа гаспадар, увесь кляновы сок пойдзе на сіроп.

– Сёлета паставіў яшчэ некалькі слоікаў соку. Кажуць, што ён дрэнна захоўваецца. Але тры тыдні стаіць, нічога з ім не зрабілася. У наступным годзе дакладна не буду замарочвацца з закаткамі. Кляновы сіроп захоўваецца як мёд, можа і год, і два стаяць. Добра, што свой клён ёсць у двары. Галоўнае, не прапусціць момант.

Сяргей Кічыгін расказвае, што эксперыменты з кляновым сіропам – гэта не адзіныя яго эксперыменты з тым, чым можна здзівіць гасцей.

– Варылі неяк варэнне з фізалісу. Ніхто не мог здагадацца, што гэта. Казалі, сліва.

– Пасадзілі фізаліс агародны, варылі з яго варэнне, марынавалі. Варэнне разышлося ў момант. А вось марынаваны фізаліс падобны да зялёных памідораў, вельмі добра ідзе на закуску.

А вось пра няўдалыя эксперыменты ў кулінарыі Сяргей Кічыгін расказваць не хацеў.

Дачка Сяргея **Ганна** распавяла:

– Мы тату не далі прыгатаваць мяса ў соку кіслай капусты. Там такі кавалак быў прыгожы, пабаяліся, што раптам не атрымаецца.

– Ой, многа вы разумееце.

**Наталля ТУР.**

# Як з 61 гатунку бульбы выбраць самы лепшы?

МАЛАДЗЕЧНА

**Пра гэта ведаюць у Маладзечанскай гатункавыпрабавальнай станцыі. Акрамя 61 гатунку бульбы, летась тут выпрабоўвалі 1444 гатункі сельскагаспадарчых культур. Дзеля гэтага на станцыі створаныя тры аддзелы: збожжавых культур, бульбы і тэхнічных культур, аддзел гародніны і аддзел патэнтнай экспертызы і ідэнтыфікацыі.**

Дырэктар станцыі **Сямён Кацуба** расказаў, што станцыя з'яўляецца элітгаспадаркай па вытворчасці высокіх рэпрадукцый насення сельскагаспадарчых раслін.

Штогод яны рэалізоўваюць 500-600 тон насення збожжавых, крыжакветных і бабовых культур, а таксама 200 тон насення бульбы.

Гаспадары, якія ведаюць, што на гатункавыпрабавальнай станцыі можна набыць самыя лепшыя гатункі бульбы, вядома, за насеннем прыязджаюць толькі сюды.

**Кілаграм бульбы-насенкі каштуе 50 капеек.**

Сёння на гатункавыпрабавальнай станцыі можна набыць два гатункі бульбы: Маніфест і Брыз. Гэтыя гатункі добрыя тым, што абодва сталовага прызначэння, амаль не разварваюцца, прыдатныя для доўгага захоўвання. Маніфест – бульба чырвоная, ранняя.

Ад гэтага года на гатункавыпрабавальнай станцыі будуць садзіць такі гатунак бульбы, як Волат.

– Гэта новы гатунак. Спецыялісты раяць мяняць гатункі бульбы раз на чатыры гады. А мы будзем імкнуцца выпрабоўваць новыя гатункі, каб ураджайнасць радавала гаспадароў. Сёлета, напрыклад, ураджайнасць бульбы склала 434 цэнтнеры з гектара.

А восенню можна прыехаць і купіць капусту, агуркі, перац, буракі, моркву, цыбулю. Гэтымі культурамі займаецца аддзел гародніны.

Вы ведалі, што летась тут выпрабоўвалася 214 гатункаў гародніны? Напрыклад, адных таматаў выпрабоўвалася 17 гатункаў, морквы – 26, а капусты аж 42.

Спецыялісты кажуць, што, напрыклад, у цыбулі, якой выпрабоўвалі 11 гатункаў, лепш за ўсё сябе паказалі гатункі Прагрэсіён, Кататар і Кілаплон . А ў моркве самымі ўраджайнымі сталі два гатункі Бланес і Берлін.

У 2018 годзе ў розніцу Маладзечанская гатункавыпрабавальная станцыя будзе прадаваць 108 гатункаў розных гародніны. Так што ацаніць і смак, і ўраджайнасць кожны зможа сам.



Лепшыя на прыгатаванні насення: (злева направа) Жанна Арцімовіч, Вольга Целяжэвіч, аграном Дзяніс Стасяловіч, Артур Гуз, Вераніка Жалевіч.



Лепшыя на сяўбе збожжавых Вадзім Слуцкі і Уладзімір Монід.




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **75617.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **61385.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**.
**ВІЛЕЙКА** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.**

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

## ВІНШАВАНКА

**З 50-годдзем Юрыю Зыгмундавічу ЛАЗАРУ з Вілейкі!**
Шчыра віншуем з юбілеем!



*50 для мужчины не возраст –*
*Это мудрость и жизни расцвет.*
*И не место для грусти, печали,*
*Впереди ещё множество лет.*
*Ты достиг уже многого в жизни:*
*И семья, и работа, мечты –*
*Всё сложилось удачно и честно*
*Для такого трудяги, как ты.*
*Принимай же сейчас*
*поздравления*
*С юбилеем, красивою датой!*
*По традиции мы*
*с вдохновением*
*Жизни долгой желаем, богатой!*

**Лукшы, Гоўзбіты, Скуратовічы.**



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*
- Волга-2410, 1988 г.в., прабег 69 000 км, белы колер. Сузукі-Балена, 3-дзверны, 1997 г.в., колер чорны металік, прабег 250 000 км. Т. (8-044) 7031972, (8-029) 9168299.*
- Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*
- Матацыкл "Мінск ММВЗ-31121". Выпуск 1986 г. Т. (8-029) 9500534.
- Нісан-Сані, 1994 г.в., 2,0ТДІ, універсал, не патрабуе рамонту, 2400 руб. Т. (8-029) 1161303.*
- Пежо-605, 1994 г.в., 2,0 бензін. Т. (8-029) 3690829, (8-033) 6310583.
- Рэно-Сцэнік, 2000 г.в., 1,9Д. Т. (8-029) 6371086.







- Таёта-Карола-Верса, 2002 г.в., серабрысты металік, 1,9 дызель, прабег 185 000 км. Тэрмінова. Т. МТС (8-029) 2717822.
- УАЗ-452Д бартавы. Т. (8-029) 2279256.*
- Шаўрале-Спарк, 2012 г.в., 1,0 газ-бензін, 115 тыс.км, 11 500 руб, торг. Т. (8-029) 6631595.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-025) 9414091.***
- Аўто дорага, у любым стане, ацаню шчодра – не пашкадуеце! Т. (8-025) 5277913.*
- Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*
- Аўто 0,01 – 4,0 л, іншамарку 1986-2018 г.в. у любым стане, можна аварыйную. Т. (8-029) 9078269, (8-033) 3495240.*
- Аўто ВАЗ, Масквіч, Волга, УАЗ, старую іншамарку і інш. у любым стане. Т. (8-029) 5261974.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*
- Аўто. Можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-029) 5677052.*
- Любое аўто на ходу. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*
- Каталізатар б/у. Т. (8-029) 9357762.*

### ІНШАЕ

- Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### ПАСЛУГІ

- Міні-экскаватара, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю.І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Міні-пагрузчык, міні-экскаватар, траншэкапальнік, вібрапліта 500 кг. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 1790000.*
- Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*
- Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772 Т. ()8-029) 6926052.*
- Паслугі экскаватара ЕВК-14 (0,9 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Хітачы, пагрузчыка Амкадор, самазвала 20 т, трала 24 т. ІП Вабішэвіч І.В. УНП 690696017. Т. (8-029) 3713335, (8-033) 3133535.*



## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 2-пакаёвая кватэра альбо абмен на г. Мінск з даплатай. Т. (8-025) 5296374.*
- 2-пакаёвая кватэра на 3 паверсе. Т. (8-033) 3209338.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Савецкай, 91. 59 кв. м, 5 паверх. Т. (8-029) 3345737.*
- **2-ПАКАЁВАЯ КВАТЭРА Ў МАЛАДЗЕЧНЕ ПА ВУЛ. Б. ХМЯЛЬНІЦКАГА,1, 49,3 КВ.М, 2/5 ЦАГЛЯНАГА ДОМА. НОВЫЯ ШКЛОПАКЕТЫ, НАЦЯЖНАЯ СТОЛЬ, МЕТАЛІЧНЫЯ ДЗВЕРЫ, АХОЎНАЯ СІГНАЛІЗАЦЫЯ. ТЭРМІНОВА. ТОРГ. 66 000 РУБ. Т. (8-029) 7040724 МТС, (8-044) 7033940 ВЭЛКОМ.**
- 2-узроўневы дом у Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*
- Гараж у ГБК Ізбіна, 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*
- Гараж у ГК №12 Маладзечна. Т, (8-029) 5612059.*
- Гараж у ГК №27 па вул. Міру ў Маладзечне (5х6 м, вароты 3 м, падвал па перыметры). Т. (8-029) 1161303.*
- Дача ў Вілейскім раёне, 4 соткі. Т. (8-029) 7512672.*
- Дом драўляны жылы ў Маладзечне. Газ, водаправод. Т. (8-029) 6691789.*
- Дом з гаспадарчымі пабудовамі, падвалам, калодзежам, тэлефонам у в. Галінова Куранецкага с/с. Т. (8-033) 6627867.*



- Дом з усімі выгодамі. Т. (8-033) 3209338.*
- Дом у Маладзечне, раён СШ №9, усе камунікацыі, нядорага. Т. (8-029) 3934544.*
- Дом у в. Алянец Смаргонскага раёна. 25 сотак, лазня, хлеў, летняя кухня, прыбудовы, туалет, калодзеж, тэлефон. Побач рэчка, лес. Т. (8-033) 6510593.*
- Дом у в. Куранец, пабудовы, сад 20 сотак. Т. (8-029) 7603076.*
- Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*
- Дом у в. Саргоўцы Астравецкага раёна. Ёсць хлеў, свіран пад знос, цэгла белая. Т. (8-01592) 24131, Вэлком (8-044) 4897022.*
- Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*
- Дом у Вілейцы. Тэрмінова. Т. (8-01771) 28717.
- Зруб новы для дома альбо лазні. Т. (8-044) 4781305.*
- Магазін у в. Каловічы, участак 7 сотак альбо абмяняю. Т. (8-029) 7735100.
- Паўдома ў в. Адамавічы па вул. Юбілейнай, 9-1; 52 кв.м. Водаправод, каналізацыя, гараж, падвал, побач газаправод, 0,14 га. 1,5 км ад Маладзечна (6 мікрараён). 36 000 рублёў. Т. (8-044) 7001386.*
- Паўдома ў Вілейцы, вул. Лаўрыновіча, 5. Т. (8-029) 2852295.*
- Участак на Браслаўскіх азёрах, 50 м ад возера. Падрабязнасці па тэлефоне, 14 000 руб. Т. (8-029) 7040724 МТС, (8-044) 7033940 Вэлком.

### МЯНЯЮ

- 3-пакаёвую кватэру ў Вілейцы па вул. Кастрычніцкай на дом. Т. (8-029) 2540408.*
- Дом на 2- ці 1-пакаёвую кватэру. Т. (8-029) 1809654.

### ЗДАМ

- Пакой хлопцу ў Маладзечне. Т. МТС (8-029) 5719435.*

### НАЙМУ

- Маладая сям'я нойме дом альбо купіць у вёсцы Хажова. Т. (8-029) 9512797.

## ПАСЛУГІ

### ПАСАЖЫРАПЕРАВОЗКІ

- Камфартабельны мікрааўтобус "МВ" – 19 п/месцаў, 2011 г.в. Абслугоўванне любых мерапрыемстваў. Доўгатэрміновыя безнаяўныя кантракты па перавозцы супрацоўнікаў. ІП Багданкевіч А.П. УНП 600090827. Т. (8-029) 6777092.*











# Добраўпарадкавалі месца былога касцёла ў вёсцы Аборак

МАЛАДЗЕЧНА

**Наша гісторыя – нацыянальная спадчына. І наш абавязак – захаваць і перадаць наступным пакаленням гэты скарб.**

21 красавіка выкладчыкі і супрацоўнікі Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Агінскага зладзілі дабрачынную акцыю па ўладкаванні месца былога касцёла Найсвяцейшай Тройцы, Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі панны і Святога Роха ў Аборку.

У 8:30 каманда з 15 чалавек была на месцы. Граблі, некалькі бутэлек фарбы, пэндзлікі і пальчаткі – усё тое, што спатрэбілася для прыборкі месца. Неўзабаве да выкладчыкаў далучыўся дырэктар навучальнай установы – **Рыгор Сарока**.

Разам была пабелена ліпавая алея, прыбранае старое лісце дрэў, пафарбаваная рэканструкцыя статуі "Анёл", якая знаходзіцца на месцы пахавання роду Ходзькаў-Дэдэркаў. Сярод бліжэйшых планаў – пасадзіць рабінавую алею.

У завяршэнні выкладчыкі наведалі старыя могілкі, на якіх пахаваныя вядомыя контр-адміралы браты Канаржэўскія.

Нагадаем, што калісьці ў касцёле знаходзіўся абраз Святога Роха, які быў зроблены ў Парыжы ў 18 стагоддзі на замову прафесара Сарбоны Ігнацыя Ходзькі для ўладальнікаў Аборка Міхала і Барбары (з роду Ходзькаў) Івашкевічаў. У касцёле прынялі хрост такія вядомыя асобы, як Ян Канаржэўскі і адзін з кіраўнікоў таварыстваў філаматаў і філарэтаў, вучоны, паэт-рамантык Тамаш Зан.

У дабрачыннай акцыі прынялі ўдзел прадстаўнікі прафсаюза каледжа, грамадскага аб'яднання "БРСМ" і фонду "Спадчына М.К. Агінскага".

**Алеся КАРОЛІК.**



Фота забяспечана Алесяй КАРОЛІК.

**Віктар Папоў, вадзіцель музычнага каледжа (злева), і Рыгор Сарока, дырэктар навучальнай установы, добраўпарадкуюць наваколле.**

# Чым здзіўляла бібліяноч у Маладзечне



Падчас бібліяночы, якая адбылася ў бібліятэцы "Верасок" у чацвер, 19 красавіка, пляцоўкі былі на любы густ. Можна было і ў віктарыне паўдзельнічаць, і паваражыць, і проста весела правесці час. Мерапрыемства, праўда, прайшло не ноччу, а ад 18 да 21 гадзіны.



Бібліяракул кожнага інтрыгаваў прадказаннем.



Для добрага фота, галоўнае, – добры настрой, які панаваў на ўсіх пляцоўках.



Выконваць творчыя і інтэлектуальныя заданні дапамагалі бібліятэкары.



Кожны мог атрымаць параду, як загадаць жаданне, каб абавязкова спраўдзілася.



Бібліятэка падрыхтавала шмат цікавых фотазон.



Справа ад хаткі – калодзеж з кніг і буслікамі. Любімае месца для фота.




На адной з пляцовак падрыхтавалі трохузроўневы торт да 630-годдзя Маладзечна. А дзеткі выразалі прыгожыя кветачкі, якімі пасля аздаблялі "салодкі падарунак" гораду.

Фота забяспечаныя бібліятэкай "Верасок".

# Кватэра ў трыумфальнай арцы і элітнае жыллё для афіцэраў

## Пра што мы даведаліся на экскурсіі па Гелянове ў межах фэста экскурсаводаў

МАЛАДЗЕЧНА

**У капліцы над трыумфальнай аркай пасля Вялікай Айчыннай вайны жыла сям'я. З трэцяга паверха афіцэрскага дома ў Гелянове быў бачны вакзал. Фальварак Гелянова, хутчэй за ўсё, названы ў гонар нейкай невядомай прыгажуні Гелены. А чаго не ведалі пра маладзечанскі мікрараён Гелянова вы?**



Уладзімір Садоўскі (злева) распавядае рознаўзроставай публіцы пра дом для польскіх афіцэраў.



Экскурсавод дэманструе фота 1950-х гадоў з ільвом каля аркі.

22 красавіка ў межах рэспубліканскага фэсту экскурсаводаў краязнаўца з Маладзечна **Уладзімір Садоўскі** правёў экскурсію па колішняму гарнізону Гелянова.

– Учора адзін сталічны экскурсавод вадзіў экскурсію па Мінску шэсць гадзін, – пачаў Уладзімір. – Я вас шэсць гадзін вадзіць не буду. Максімум – пяць.

Падчас нядоўгай прыватнай гутаркі Уладзімір распавёў, што ў Гелянове жылі яго дзядуля і бабуля. Дзядуля ад 1960-х гадоў працаваў на мэблевай фабрыцы непадалёк. Таму хлопец ведаў гэтыя мясціны з дзяцінства. Аднак сур'ёзна зацікавіўся гісторыяй Гелянова ўжо будучы дарослым – у 2013 годзе.

### Казіно без рулеткі і картаў

Экскурсію пачалі ад будынка Мінскага абласнога драматычнага тэатра – а за польскім часам – афіцэрскага казіно. Аднак, па словах экскурсавода, мелася на ўвазе не тое казіно, дзе гуляюць у карты і рулетку.

Так называўся афіцэрскі клуб, дзе на сцэне ладзіліся канцэрты і імпрэзы. У гэтым жа будынку, верагодна, была і вайсковая кухня. Будынак зрабілі сіметрычным: вялікія вокны былі і спераду, і ззаду. У наш час тыя вокны, што глядзяць на парк, заклалі цэглай.

Ад 1944 года ў будынку тэатра быў спачатку абласны, а потым гарадскі Дом культуры.

### Куды "збеглі" львы ад трыумфальнай аркі

У 1929 годзе 86 пяхотны полк адзначаў дзесяцігоддзе. З гэтай нагоды ў горадку пабудавалі трыумфальную арку. Па новых звестках, яе асвяцілі не ў 1929, а ў 1930 годзе. Тады прэзідэнт Польшчы Ігнат Масціцкі наведваў гарады Віленскага ваяводства. Ён удзельнічаў у адкрыцці аркі ў Маладзечне.

Наверсе аркі была каплічка. Тут ладзіліся набажэнствы і вісеў звон, адліты спецыяльна да адкрыцця аркі. Цяпер звон у Музеі гісторыі Мінска.

Арку ўпрыгожвалі статуі рыцараў, якіх разбурылі падчас вайны, і пліты, дзе было напісане прысвячэнне абаронцам Міншчыны. Ля аркі адзначалі дзяржаўныя польскія святы, напрыклад, Дзень Канстытуцыі Польшчы – 3 мая.

Арка перажыла вайну. У канцы 1940-х наверсе ў каплічцы жыла сям'я. У савецкі час пад аркай праходзілі першамайскія дэманстрацыі. Яе разбурылі ў пачатку 1960-х. Адна з прычын – перашкода руху. Тады якраз зрабілі новую дарогу на Валожын, узмацніўся рух у гэтым накірунку.

Каля аркі стаялі два каменныя львы. Сёння яны знаходзяцца каля навучальнай установы ў Беразінскім, па словах сведкаў, у занядбаным стане.

### Не "хрушчоўкі", а "пілсудаўкі" для "кантрактнікаў"

Злева ад аркі пабудаваныя два амаль аднолькавыя дамы для польскіх падафіцэраў, у якіх і сёння жывуць людзі.

– Гэта тыповае жыллё для вайскоўцаў. Як "хрушчоўкі" ў савецкі час. Такія дамы можна назваць "пілсудаўкі", – пажартаваў экскурсавод. – У іх жылі вайскоўцы, якія служылі, кажучы сучаснай мовай, "па кантракце" і выконвалі абавязкі сяржантаў.

Больш элітнае жыллё – дамы для афіцэраў. Адзін – у дварах, другі побач з аўтобусным прыпынкам "Драмтэатр".

Тры паверхі ў дамах былі жылыя, чацверты – тэхнічны. За польскім часам на тэхнічным паверсе працавала пральня і сушылася бялізна. Ужо ў 1920-30 гадах выгоды – прыбіральня і душ – месціліся ў кватэрах. Ацяпленне было пячное. Кухні праектавалі маленькія, толькі для таго, каб разагрэць ежу, узятую ў вайсковай сталовай.

На сценах дома з шэрай цэглы, які стаіць каля аўтобуснага прыпынку, можна заўважыць сляды ад куль і закладзеную цэглай дзірку ад снарада. З польскіх часоў каля пад'езду засталіся ўмураваныя ў цэглу металічныя трубкі для сцягоў, што луналі тут падчас польскіх дзяржаўных святаў.

### Ад Гелянова да вакзала – суцэльныя палі

Жаўнеры, якіх служыла каля 1700, жылі ў казармах. Сёння ў гэтых каменных будынках крама і карпусы навучальных установаў. Уралагічнае аддзяленне Маладзечанскай ЦРБ, пафарбаванае ў сучасны ружовы колер, таксама былая казарма.

Пасля вызвалення горада ў 1944-м у Гелянове, у былых казармах, размясціўся аблвыканкам Маладзечна, бо ў 1944 годзе горад атрымаў статус абласнога, якім заставаўся да 1960.

Два дамкі, дзе жылі цывільныя супрацоўнікі гарнізона, месцяцца паміж вуліцай Буйло і бальніцай. А двухпавярховы дом на Буйло, дзе цяпер цэнтр дзіцячай творчасці, належаў палкоўніку, што камандаваў гарнізонам. Дрэвы ўздоўж вуліцы – магчыма, алея тых часоў.

Адразу за афіцэрскімі дамамі да чыгуначнага вакзала ішлі суцэльныя палі. Таму з трэцяга паверха дома лёгка можна было ўбачыць вакзал.

А забудова на Машэрава, якую часам памылкова прымаюць за дамы польскага гарнізона, адносінаў да Гелянова не мае. Гэтыя двухпавярховыя дамы пабудавалі тут у 1940-1950-х.

### Пра "фізуху" і вайсковую "муштру"

На месцы сённяшняга гарадскога стадыёна быў вайсковы пляц. Тут жаўнеры займаліся фізічнай падрыхтоўкай, скакалі на конях, ладзілі вайсковыя парады.

Займаліся спортам і на сённяшнім стадыёне другой школы. Увогуле, фізічнай падрыхтоўцы жаўнераў надавалі шмат увагі. Па словах экскурсавода, стрэльбы для салдат ладзіліся ў Лазаўцы. І туды ад Гелянова яны мусілі бегчы ва ўсёй вайсковай экіпіроўцы.

### А цяпер пра дом, які не захаваўся

Да нашых дзён не захаваўся сядзібны дом гаспадароў фальварка Гелянова – **Васілеўскіх**. Вядома, што ён быў драўляны і месціўся там, дзе сёння зелянгас.

Прыкладна насупраць дома было штучнае азярцо, дзе каталіся на лодках. У 1922 годзе польская дзяржава набыла ў паноў Васілеўскіх зямлю для свайго карыстання. Назва фальварка Гелянова, хутчэй, паходзіць ад польскага жаночага імя Гелена.

### Крыху з гісторыі гарнізона

86 пяхотны полк Войска Польскага перавялі з Вільні пад Маладзечна ў 1922 годзе. Спачатку полк месціўся на Замкавай вуліцы, там, дзе сёння вайсковая часць, і ў Красным. Аднак гэтых будынкаў было мала.

Будаваць вайсковы гарадок на выкупленых у Васілеўскіх землях у чыстым полі пачалі з нуля ў 1924 годзе.

У склад Маладзечна Гелянова ўвайшло ў 1929 годзе. Якраз тады загадам Польскага ўрада Маладзечна атрымала статус горада і да яго далучылі фальваркі Бухаўшчына, Гелянова, калонію Завань і засценак Цвідаўка.

Да 1950-х гадоў Гелянова было геаграфічна аддзеленае ад цэнтра горада. Гарадскі парк і забудова 1940-50-х гадоў на сённяшніх вуліцах Маркава і Машэрава злучылі былы вайсковы гарадок з цэнтрам Маладзечна.

Аксана ЯРАШОНАК.

Фота аўтара.

# Фотаздымкі Красненскага касцёла захоўваюцца ў Кракаве



Фотаздымкі з Красненскага касцёла ў кракаўскім альбоме датаваныя канцом 50-х гадоў.



Юзаф Марсангер на лаўцы ля празбітэрыума.

*Заканчэнне.*
*Пачатак у №16.*

МАЛАДЗЕЧНА

**Архівы вельмі часта дораць нечаканыя знаходкі. Падчас працы ў кракаўскіх ордэнскіх архівах (місіянерскім, дамініканскім, езуіцкім, францысканскім) прыемнай знаходкай сталі фотадакументы, якія нагадалі пра Краснае.**

У другой палове 40-х гадоў 20 стагоддзя каталіцкія святары масава асуджаліся. Асновай прысуду станавілася іх рэлігійная дзейнасць, якая ўваходзіла ў шырокае разуменне "антысавецкай". У сярэдзіне 50-х гадоў, адбыўшы пакаранне альбо ў выніку перагляду спраў, яны вярталіся з лагераў, спадзеючыся працягнуць працу на старых месцах. Аднак многія з іх не маглі атрымаць рэгістрацыю і, адпаведна, працаваць у касцёлах. Чаканне рэгістрацыі зацягвалася на некалькі год. У гэты час неабходна было шукаць сабе хоць нейкі прытулак. Менавіта ў Красным у кс. Юзафа Марсангера пасля вызвалення з лагераў некалькі год жылі **Стэфан Шыманскі** (да асуджэння – пробашч у Радашкавічах; не атрымаўшы рэгістрацыі выехаў у Польшчу), **Ян Такарскі** (да асуджэння – пробашч у Дубраве, з 1956 года – пробашч у Ракаве), езуіт кс. **Антоні Зомбэк**, **Альфонс Чыжэўскі**, які вярнуўся з лагераў і памёр у Красным (магіла знаходзіцца ля касцёла).

З 1968 года святар быў пераведзены на працу ў Солы, дзе і працаваў да канца свайго жыцця ў 1982 годзе.

Як жа выглядаў гэты святар, дзякуючы якому на Маладзечаншчыне захаваўся адзін з помнікаў культавага дойлідства? Як выглядала Краснае ў часы, калі ён працаваў тут?

**Паколькі Юзаф Марсангер належаў да ордэна езуітаў, некаторыя дакументы аб яго дзейнасці захоўваюцца ў архіве гэтага ордэна, у цэнтры Малапольскай правінцыі – Кракаве.**

У альбоме для фотаздымкаў сабраныя фотаздымкі ад 32 святароў, а таксама выдзеленыя два тэматычныя блокі "Стара Весь" і "Рэкалекцыі". Адным са святароў, фотаздымкі якога знаходзяцца ў калекцыі, быў Юзаф Марсангер. Агульная колькасць пасляваенных фотаздымкаў з ім – 12. З іх тых, якія дакладна можна атрыбутаваць як "красненскія" – 11. Два "красненскія" фотаздымкі – гэта партрэты святара ў інтэр'еры касцёла: адзін – у канфесіянале, другі – на лаўцы ля празбітэрыума.

Дацыроўка адсутнічае, але можна дапусціць, што гэта канец 50-х – першая палова 60-х гадоў 20 стагоддзя. Гэтыя ж фотаздымкі часткова паказваюць красненскія пейзажы сярэдзіны 20 стагоддзя: на адным з фота адлюстраваны неіснуючы сёння дом ля касцёла (знаходзіўся па правым баку ад прыступак, што вядуць да касцёла); на другім – галоўны ўваход у касцёл, на наступным фотаздымку – прыступкі, што вядуць да касцёла.

Адзіны фотаздымак, на якім пастаўлена дата, – гэта фотакартка інтэр'ера Красненскага касцёла, датаваная 22.8.1949 г. Фотаздымак зроблены з хораў падчас набажэнства. Нягледзячы на тое, што гэта быў панядзелак, як бачна, усе лаўкі ў касцёле занятыя, аднак сярод наведнікаў бачныя толькі жанчыны. Мужчына толькі адзін – міністрант, які прыслугоўваў святару.

Фотаздымкі дапамагаюць нам аднавіць гісторыю мінуўшчыны нашага краю. Яны ўзнаўляюць у памяці месцы, твары, пейзажы. І менавіта яны дапамагаюць у поўнай гістарычнай рэканструкцыі гісторыі сям'і, мясцовасці, краіны.

**Раіса ЗЯНЮК,**
**кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі.**



Адзіны фотаздымак, на якім пастаўлена дата, – гэта фотакартка інтэр'ера Красненскага касцёла, датаваная 22.8.1949 г. Фотаздымак зроблены з хораў падчас набажэнства. Нягледзячы на тое, што гэта быў панядзелак, як бачна, усе лаўкі ў касцёле занятыя, аднак сярод наведнікаў – толькі жанчыны. Мужчына адзін – міністрант, які прыслугоўваў святару.

Фотаздымкі з архіва правінцыі Паўднёвай Польшчы ксяндзоў-езуітаў (Кракаў).

КАЛЯНДАР

## 28 КРАСАВІКА

**1918.** 100 гадоў таму Народны Сакратыят Беларусі зацвердзіў беларускую мову ў якасці дзяржаўнай і абавязковай у Беларускай Народнай Рэспубліцы і прыняў пастанову аб адкрыцці ў Мінску ўніверсітэта.

**1900.** Памёр Францішак Багушэвіч (нарадзіўся 21.3.1840), класік беларускай літаратуры, удзельнік паўстання 1863-1864 гг. Пахаваны ў Жупранах Ашмянскага раёна.

## 1 МАЯ

**Свята працы.**

**75 гадоў** з дня нараджэння **Алеся Крыгі** (сапр. Асіпенка Аляксандр Аляксандравіч) (1943 – 2009), беларускага пісьменніка. Нарадзіўся ў Мінску ў сям'і пісьменніка. Пасля заканчэння дзесяцігодкі (1960) працаваў на Мінскім заводзе аўтаматычных ліній фрэзероўшчыкам. Вучыўся на вячэрнім, потым на завочным аддзяленні БДУ. У 1962-1966 гг. служыў на Ваенна-Марскім флоце. Ад 1967 г. – літсупрацоўнік рэдакцый рэспубліканскіх газет "Чырвоная змена", "Физкультурник Белоруссии", "Піянер Беларусі". У 1971-1972 гг. плаваў матросам траўлера на Поўначы. Першую аповесць "Я вернусь к тебе, море!" апублікаваў у 1965 г. Аўтар аповесцей "Паўночны фарватэр" (1971), "Порт прызначэння" (1974), "Чайкі над полем" (часопіс "Маладосць", 1978), "Марзянка для нелюбімых" (аповесць і апавяданні, 1988), кнігі для дзяцей "Медзведзяня шукае сяброў" (1987), мастацка-публіцыстычнай кнігі "Выбух над Прыпяццю" (часопіс "Полымя", 1990).

**1978.** 40 гадоў назад адкрыты Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы (на базе Гродзенскага дзяржаўнага педінстытута).

**95 гадоў** з дня нараджэння Якава Яравога (1923 – 1998), беларускага харавога дырыжора, заслужанага артыста Беларусі. Ігар Лучанок казаў, што ён напісаў больш ваенных песень, чым усе беларускія кампазітары.

## 3 МАЯ

**Сусветны дзень свабоды друку** (адзначаецца па рашэнні ЮНЕСКА ад 1991 года).

**Дзень Сонца** (адзначаецца па рашэнні ЮНЕСКА ад 1994).

**У 1918 годзе:**

~ 1500 гадоў таму працягвалася масавае рассяленне славян на ўсход з тэрыторыі сучаснай Германіі на тэрыторыю Беларусі, дзе жылі балцкія плямёны. Пачалася славянізацыя тэрыторыі Беларусі і працэсы стварэння беларускага (крывіцка-літоўскага) этнасу.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**



# ПРОСТЫЯ РЭЧЫ

“Рэгіянальная газета” працягвае праект “Простыя рэчы”. Штомесяц мы будзем распавядаць аб прадметах, якія маглі б даўно стаць музейнымі экспанатамі. Але не сталі. Бо, як мы ўпэўніліся, і сёння ёсць людзі, якія карыстаюцца імі. Пра такія рэчы і іх гаспадароў мы раскажам у праекце. Можа, вы, шаноўныя чытачы, засцілаеце падлогу саматканымі бабулінымі палавікамі ці рэжаце траву для жывёлы ў сячкарні? А можа, нехта цішком тчэ на кроснах?

Тады тэлефануйце нам на нумар 8 (0176) 53-78-06, і мы раскажам вашу гісторыю. Галоўнае, каб гэта рэч не была музейным экспанатам, а і сёння служыла вам па прызначэнні.



Аўтар праекта Аксана ЯРАШОНАК.

# Ставім букеты і любім фатаграфавацца побач

## Серафіма Шэрая з Ілы распавяляла пра стогадовы металічны столік са свайго падворка



Фота Васіля ШЭРАГА.

Наталля і Максім Шэрыя з дзецьмі Мацвеем і Серафімай. Сённяшнія гаспадары століка.







Фота забяспечанае Розай ШЭРАЙ.

Канстанцін Урлік прыкладна ў 1915 годзе – першы гаспадар століка.

ВІЛЕЙКА

**У двары Наталлі і Максіма Шэрых у Ілы ўвагу мінакоў прыцягваюць і яркія кветнікі ад вясны да восені і афармленне двара старымі рэчамі. Сярод іх – металічны столік, зроблены невядомым майстрам у пачатку мінулага стагоддзя.**

### Столік прыехаў з Браслаўшчыны

Столік не толькі цудоўна ўпісваецца ў ландшафтны дызайн падворка. Сям'я выкарыстоўвае яго для розных мэт. Напрыклад, гаспадыня Наталля часам перасаджвае на ім кветкі. А яшчэ ў сямейным альбоме Шэрых ёсць агульныя фотаздымкі за столікам. І, вядома, паставіўшы побач прыгожыя крэслы, за ім можна проста пасядзець і прыгадаць мінулае.

– Гэты столік з'явіўся ў нашай сям'і ў 2003 годзе, – распавядае **Серафіма Шэрая**, дачка Максіма і Наталлі, вучаніца дзявятага класа мясцовай школы ў Ілы. – Калі траюрадная сястра маёй бабулі пераязджала з Браслаўшчыны ў Наваполацк. А гэтая траюрадная сястра была адначасова жонкай бабулінага стрыечнага брата **Мікалая Урліка**.

З расповедаў бабулі **Розы Шэрай** унучка ведае, што Мікалай Урлік, як і яго бацька **Канстанцін**, былі праваслаўнымі святарамі. Амаль усё жыццё Мікалай служыў у царкве ў Богіне, што на Браслаўшчыне. Там на царкоўным двары ён і пахаваны.

– У 2003 годзе жонка Мікалая Кацярына сабралася назусім пераехаць з Браслаўшчыны ў Наваполацк, – працягвае Серафіма распавядаць гісторыю сямейнага экспаната. – На развітанне да сябе ў Богіна яна паклікала маю бабулю Розу. На тую сустрэчу яе вазіў мой тата Максім. Вось тады ён і атрымаў у падарунак гэты стары столік.

### Пра вёску Жылíборы, якой не існуе

А шмат дзясяткаў год таму металічны стол належаў бацьку Мікалая – святару **Канстанціну Урліку**. Недзе ў 1915-1920 гадах Канстанцін служыў дыяканам у царкве ў вёсцы Жылíборы. Па словах Розы Шэрай, Жылíбораў ужо няма на карце Беларусі. А раней гэта была маленькая вёсачка сярод балот, але з царквою, верагодна, на Мядзельшчыне.

Тут, у Жылíборах, нехта падарыў маладому дыякану металічны столік. Пасля, будучы ўжо святаром, Канстанцін пераехаў служыць у вёску Маставыя.

Пасля смерці бацькі ў 1948 годзе некаторыя рэчы перайшлі да сына Мікалая. Сын забраў бацькавы кнігі і гэты самы столік.

– Мікалай шмат пераязджаў, але столік захоўваў. Для яго гэта была памяць пра бацьку і маці – **Ганну**, або Нюру, як звалі яе сваякі і блізкія, – кажа Серафіма. – Ганна – родная сястра маёй прабабулі. Матушка Ганна памерла ў адзін год з мужам: ён 27 мая, а яна – 28 жніўня.

Бабуля Роза распавядала Серафіме, што ў сям'і Канстанціна і Ганны гадавалася **Анастасія Будзько** – маці Розы Канстанцінаўны і адпаведна прабабуля Серафімы. Менавіта яны з Богіна аддалі Анастасію замуж.

### Ільянскае жыццё сямейнай рэліквіі

У 1948 годзе 25 верасня сын Канстанціна і Ганны Мікалай ажаніўся з Кацярынай. Так атрымалася, што Мікалай быў стрыечным братам Розы Шэрай з боку маці, а Кацярына – траюраднай сястрой, толькі з боку бацькі.

Тры гады Мікалай адслужыў на бацькавым месцы. А ў 1951 годзе пераехаў на Вілейшчыну. І пяць год служыў тут. Урэшце прыехаў на Браслаўшчыну, у вёску Богіна, дзе жыў і служыў да канца жыцця.

Столік на падворку Серафіма Шэрая памятае столькі, колькі саму сябе. І лічыць яго сапраўднай сямейнай рэліквіяй.

– Стол мы не фарбуем, – кажа дзяўчына. – Навошта зафарбоўваць гісторыю? Летам ставім на яго букеты, любім фатаграфавацца побач. Зімой ставім іншае, больш марозаўстойлівае ўпрыгажэнне. Столік стаіць пад грушай і ўпрыгожвае наш двор. Думаю, мы і далей будзем перадаваць яго іншым пакаленням нашай сям'і.

# "Вешаў карту і паказваў, дзе Берлін, дзе Варшава, а дзе Мінск"

## Ураджэнец Вілейшчыны Уладзімір Папковіч – пра тое, як распавядаў немцам пра Беларусь

ВІЛЕЙКА

**На працягу амаль двух дзясяткаў гадоў, ад канца 1980-х да 2009-га, ураджэнец Вілейшчыны, паэт, перакладчык, выкладчык нямецкай мовы Уладзімір Папковіч наведваў Германію.**

Ездзіў туды адзін, пасля – з жонкай, Ларысай, а далей – з калегамі і студэнтамі, каб тыя змаглі ўдасканаліць веданне нямецкай мовы. У адну з апошніх паездак Папковіч запрасіў з сабой земляка – ураджэнца Вілейкі журналіста **Сяргея Макарэвіча**.

– І амаль кожны раз мая даўняя знаёмая, фраў **Урсула Хайнэке**, знаходзіла для мяне магчымасць выступіць перад народам і расказаць яму пра Беларусь, – прыгадвае Уладзімір Папковіч.

### "Пра Купалу я распавядаў, а пра Алексіевіч немцы ведалі самі"

Па словах паэта, немцы амаль нічога не ведалі пра Беларусь. Заўсёды трэба было вешаць карту і паказваць, дзе Берлін, дзе Франкфурт-на-Одэры, дзе Варшава, дзе Брэст, дзе Мінск і дзе Віцебск. Часта пасля выступлення да Уладзіміра Папковіча падыходзілі старыя дзяды і расказвалі пра свой удзел у Другой сусветнай вайне, прыгадвалі Усходні фронт.

Віцебск, дзе жыў і працаваў выкладчыкам Папковіч, быў добра вядомы таму пакаленню. Аповеды пра гісторыю, культуру, літаратуру, мову трэба было заўсёды пачынаць з самага пачатку.

> – Кожны раз гучала самае банальнае пытанне: "Чым адрозніваецца беларуская мова ад рускай?" –

дзеліцца ўспамінамі Уладзімір Антонавіч.

Кожны раз ён паўтараў прозвішчы **Максіма Багдановіча**, **Янкі Купалы**, **Якуба Коласа**, **Уладзіміра Караткевіча**, **Рыгора Барадуліна**, **Васіля Быкава**. А вось імя пісьменніцы Нобелеўскай лаўрэаткі **Святланы Алексіевіч** хутка само разышлося ў Еўропе.

Некаторыя ведалі і пра Рыгора Барадуліна. Але Уладзімір Папковіч перакананы: спазнаць усю значнасць і прыгажосць майстэрства паэта можна толькі чытаючы яго творы ў арыгінале.

– Займаючыся сам перакладамі, я даўно зразумеў, як шмат трацяць перакладзеныя вершы, нават па-майстэрску ўвасобленыя, – кажа мой субяседнік.


Фота facebook.com.

У адной з паездак кампанію Уладзіміру Папковічу (справа) склаў зямляк Сяргей Макарэвіч.

### Што зацікавіла ў постацях Маякоўскага і Ясеніна

Часам немцы прасілі расказаць пра каго-небудзь са знакамітых рускіх савецкіх паэтаў. Тады Уладзімір Папковіч спыняўся на жыцці і творчасці **Сяргея Ясеніна** і **Уладзіміра Маякоўскага** – двух паэтаў розных накірункаў, якія так паспяхова пачыналі і так загадкава і трагічна загінулі. Тым больш, у Папковіча былі пераклады вершаў гэтых паэтаў на нямецкую мову.

– Не скажу, што пераклады гэтыя вельмі ўдалыя, – адзначае Уладзімір Папковіч. – Бо чым больш адметная мова арыгінала, тым цяжэй яе перакладаць.

Падчас выступлення дакладчык з Беларусі не мог абысці шматлікія заканасці Сяргея Ясеніна, жанчын, з якімі ён на нейкі час звязваў сваё жыццё, яго раман з Айседорай Дункан, з якой ён, між іншым, быў разам у Берліне.

У біяграфіі Уладзіміра Маякоўскага нямецкіх слухачоў заінтрыгавала сувязь паэта з сям'ёй Брык, тым больш, што ўспаміны каханай Маякоўскага, Лілі Брык, выдаваліся на нямецкай мове.

### Фантастычныя ўражанні ад фантастычнай бібліятэкі

Падчас аднаго з апошніх падарожжаў госця з Беларусі захапіла фантастычная бібліятэка ў нямецкім гарадзе Вецлары. Яна параўнальна не старая – адчыненая ў 1989 годзе. Гэта самая вялікая публічная фантастычная бібліятэка ў свеце.

Чаму фантастычная? Тут збіраюць усё, што з'явілася ў літаратурным жанры фантастыкі на нямецкай мове: навуковую і класічную фантастыку, фэнтэзі, літаратуру жахаў, утапічную літаратуру, вандроўкі і прыгоды, казкі, паданні, міфы.


Фота feierabend.de.

У адной з залаў фантастычнай бібліятэкі.

Бібліятэка прапануе гэтыя назвы – у тым ліку адпаведную крытычную літаратуру – як для непасрэднага карыстання ў бібліятэцы, так і на дом. Ад 2006 года ўвесь фонд бібліятэкі належыць прыватнаму таварыству агульнага карыстання.

Фантастычная бібліятэка ў Вецлары – культурны, навуковы і асветніцкі цэнтр. Яна працуе як даследчая бібліятэка, якой карыстаюцца вучоныя і культурныя дзеячы ўсёй Еўропы. Бібліятэка супрацоўнічае са шматлікімі ўніверсітэтамі і літаратурнымі таварыствамі.

Тут арганізуюць навуковыя пасяджэнні, гурткі, семінары і серыі дакладаў на літаратурныя і міжпрадметна звязаныя прыродазнаўчыя, палітычныя і гістарычныя тэмы. Бібліятэка, акрамя таго, займаецца кансультацыямі для аўтараў і выдавецкім менеджментам.

– Скажу вам шчыра: тое, што робіць гэта бібліятэка – ашаламляльна, – распавядае Уладзімір Папковіч. – На тэмы мерапрыемстваў, што тут праводзяцца, і расшыфроўку іх зместу спатрэбілася б цэлая кніжка. Мяне ўражвае ўменне і жаданне розных арганізацый і ўстаноў працаваць разам на агульную карысць.

Напрыклад, у бібліятэцы ёсць такі праект – спрыянне чытанню. Ва ўсім свеце бацькі і настаўнікі скардзяцца, што дзеці не хочуць чытаць. Фантастычная бібліятэка заахвочвае дзяцей чытаннем. Тут прапануюць ім самыя цікавыя кніжкі, запрашаюць у бібліятэку. І дзеці, гуляючы, пад кіраўніцтвам педагогаў з досведам незаўважна для сябе вывучаюць літары, а потым складаюць іх у словы.

Бібліятэка знаходзіць "сямейных чытальнікаў", арганізуе сустрэчы з сем'ямі. Калі дзеці па нейкай прычыне не могуць атрымаць кніжку для чытання, работнікі бібліятэкі прыносяць ім яе дадому, і нават самі чытаюць дзецям.

– Каб жа наша якая-небудзь, неабавязкова фантастычная, бібліятэка зацікавілася гэтым досведам! – кажа Уладзімір Папковіч.

На думку пісьменніка, не варта ствараць яшчэ адну фантастычную бібліятэку ў Еўропе, падладжвацца пад некага. Ён лічыць, што для нас у першую чаргу патрэбная беларуская дзіцячая бібліятэка, дзе была б сабраная літаратура свету для дзяцей на беларускай мове. Каб там працавалі сапраўдныя энтузіясты беларускай мовы і літаратуры і прышчаплялі любоў да беларускай мовы з дзяцінства.


Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ, ПЕДАГОГАМ (ВЫПУСК 13)

## Заканчваем пачатковы курс

**Вось мы і завяршылі пачатковы курс шахмат. Але падарожжа толькі пачынаецца!**

Дзеці яшчэ не ведаюць усе правілы гульні. Напрыклад, узяцце на праходзе, ракіроўку і іншыя.

Хутчэй за ўсё, вы як добрыя педагогі раскрыеце ім і гэтыя сакрэты і правілы, і іншыя.

Што далей? Толькі наперад! Гуляць у шахматы, ладзіць турніры, выйграваць і зноў гуляць!

Вельмі цікавая пазіцыя па гэтым пытанні прафесара СПБДУ, загадчыцы кафедры праблем канвергенцыі натуральных і гуманітарных навук, кіраўніка лабараторыі кагнітыўных даследаванняў, доктара філалагічных і біялагічных навук **Таццяны Чарнігаўскай**.

На думку вучонага, выкладчык або настаўнік, які проста прыходзіць выкладаць веды, не патрэбны. Патрэбны вірусны выкладчык. Дзецям павінна стаць цікава тое, што мы ім прапануем. Калі ім не цікава, няма чаго траціць на гэта час і грошы – пустая справа!

Выкладаць павінны людзі, якія не проста даносяць нейкую інфармацыю, але тлумачаць, каментуюць, правакуюць, выклікаюць на дыялог, узбуджаюць пратэст, гуляюць.

Па словах эксперта, калі адкрыць чарапную скрынку, наўрад ці там можна ўбачыць, дзе ляжаць назоўнікі, дзе – прыметнікі, дзе конь, ферзь, а дзе шах і мат. Можа, дзяцей варта вучыць таму, як "трымаць" памяць і ўвагу, класіфікаваць інфармацыю, як здабываць тую, якой можна верыць, як паводзіць сябе ў сітуацыі бясконцага стрэсу і цэйтноту.

Як не баяцца сказаць, што думаеш, нават калі тваё меркаванне не супадае з агульнапрынятым? Бо хіба не гэта шлях да адкрыццяў?!

Патрэбныя людзі з адкрытай свядомасцю, у якіх расплюшчаныя вочы, адкрытыя вушы, а нос прынюхваецца. Патрэбныя мазгі, незалепленыя пластылінам. І наша задача, задача адукацыі – развіваць гэтыя мазгі далей, а не душыць іх.

Што далей? Вучыць, гуляць, развіваць, распавядаць, паказваць, мець зносіны і... зноў вучыць!

З павагай да ўсіх бацькоў, педагогаў і іх адораных дзяцей, Віталь Качаткоў.

На ўсялякі выпадак, мой электронны адрас Kochet@tut.by.

**Заданне**

**Знайдзі ахвяру для белага караля. Збі яе.**



**Куды пайсці чорнаму каралю?**



## Апошні шанец даслаць малюнак

Мы яшчэ збіраем малюнкі для кніжкі Віталя Качаткова пра тое, як навучыць шахматам дашкольнікаў.

Дасылайце любыя малюнкі на тэму шахмат у рэдакцыю на адрас: 222310, Вялікі Гасцінец, 143/518 з пазнакай "Конкурс малюнкаў пра шахматы". А можна сфатаграфаваць і даслаць здымак на regionnews@rh.by.

Малявацъ можа хто заўгодна, даслаць можна адначасова некалькі малюнкаў.

**Галоўная ўмова – малюнак павінны паказваць любое шахматнае правіла.**

Усіх удзельнікаў чакаюць памятныя падарункі. Віталь Качаткоў абярэ сярод дасланых тыя, што размесціць пасля ў кніжцы.



**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.**

# Хлопец з Вілейкі стаў чэмпіёнам Еўропы па скачках на батуце

ВІЛЕЙКА

**Іван Літвіновіч з Вілейкі атрымаў два залатыя медалі ў камандных і індывідуальных скачках на батуце на чэмпіянаце Еўропы, што адбываўся 12-15 красавіка ў Баку.**

У спаборніцтвах удзельнічалі прадстаўнікі 25 краін, больш за 420 спартсменаў.

Сёння навучэнец каледжа Іван Літвіновіч – чэмпіён Еўропы сярод юніёраў.

А пачалося ўсё дзесяць год таму з Вілейскай дзіцячай спартыўнай школы. Сюды мама, **Таццяна Літвіновіч**, прывяла сына да трэнера па скачках на батуце **Пятра Зайцава**.

– Увесь час да 2016 года сын займаўся ў Пятра Іванавіча, – распавядае Таццяна Літвіновіч. – Мы з Іванам удзячныя гэтаму трэнеру.

Два гады таму таленавітага спартсмена перадалі з Вілейскай дзіцячай спартыўнай школы ў Рэспубліканскі цэнтр алімпійскай падрыхтоўкі. Тут з ім стала займацца трэнер **Вольга Уласава**, якая падрыхтавала алімпійскага чэмпіёна **Уладзіслава Ганчарова**.

Чаму хлопчык стаў займацца спортам? Па словах мамы, у яго проста не было выбару. Таццяна Літвіновіч працуе трэнерам па спартыўнай акрабатыцы. І з дзяцінства сын быў побач з мамай у спартыўнай школе.

– За гэтыя дзесяць год, – кажа Таццяна, – у сына і думкі не было, каб кінуць батут. Толькі зрэдку мог дазволіць сабе прагуляць трэніроўку.

Сёння Іван вучыцца ў Вілейскім дзяржаўным каледжы, але і ён, і мама будучыню хлопца звязваюць са спортам.

– Не страшна вам, калі сын робіць сальта ў паветры? – пытаюся ў мамы чэмпіёна.

– Страшна, канешне. Але ўжо пачала прывыкаць, – адказвае Таццяна.



**Іван Літвіновіч з Вілейкі вучыцца на аўтаслесара, але плануе звязаць сваю будучыню са спортам.**

# Каляндар чэмпіянату Беларусі па фуболе сярод каманд другой лігі (Д3)

| Тур | Дата правядзення | Дамашняя гульня | Гульня ў гасцях |
|---|---|---|---|
| 3 | 29 красавіка | Рух (Брэст) | Маладзечна |
| | 29 красавіка | Спадарожнік (Рэчыца) | Ашмяны БДУФК |
| 4 | 5 мая | Маладзечна | "Крумкачы" Мінск |
| | 5 мая | Ашмяны БДУФК | "Вікторыя" Мар'іна Горка |
| 5 | 20 мая | Асіповічы | Маладзечна |
| | 20 мая | Горкі | Ашмяны БДУФК |
| 6 | 27 мая | Ашмяны БДУФК | "Энергетык-БГАТУ" Мінск |
| | 27 мая | Маладзечна | Спадарожнік (Рэчыца) |
| 7 | 2 чэрвеня | "Вікторыя" Мар'іна Горка | Маладзечна |
| | 2 чэрвеня | Івацэвічы | Ашмяны БДУФК |
| 8 | 8 чэрвеня | Маладзечна | Горкі |
| 9 | 17 чэрвеня | "Энергетык-БГАТУ" Мінск | Маладзечна |
| | 17 чэрвеня | Ашмяны БДУФК | СМІаўтатранс (Смалявічы) |
| 10 | 23 чэрвеня | Клецк | Ашмяны БДУФК |
| | 23 чэрвеня | Маладзечна | Івацэвічы |
| 11 | 30 чэрвеня | Ашмяны БДУФК | Маладзечна |
| 12 | 7 ліпеня | Маладзечна | СМІаўтатранс (Смалявічы) |
| | 7 ліпеня | Будпром (Гомель) | Ашмяны БДУФК |
| 13 | 14 ліпеня | Ашмяны БДУФК | "Нёман-Агра" Стоўбцы |
| | 14 ліпеня | Клецк | Маладзечна |
| 14 | 21 ліпеня | Узда | Ашмяны БДУФК |
| 15 | 28 ліпеня | Ашмяны БДУФК | Рух (Брэст) |
| | 28 ліпеня | Маладзечна | Будпром (Гомель) |
| 16 | 4 жніўня | Маладзечна | "Нёман-Агра" Стоўбцы |
| | 4 жніўня | Ашмяны БДУФК | "Крумкачы" Мінск |
| 17 | 11 жніўня | Асіповічы | Ашмяны БДУФК |
| | 11 жніўня | Узда | Маладечна |
| 18 | 18 жніўня | Маладзечна | Рух (Брэст) |
| | 18 жніўня | Ашмяны БДУФК | "Спадарожнік" (Рэчыца) |
| 19 | 25 жніўня | "Вікторыя" Мар'іна Горка | Ашмяны БДУФК |
| | 25 жніўня | "Крумкачы" Мінск | Маладзечна |
| 20 | 1 верасня | Маладзечна | Асіповічы |
| | 1 верасня | Ашмяны БДУФК | Горкі |
| 21 | 8 верасня | "Энергетык-БГАТУ" Мінск | Ашмяны БДУФК |
| | 8 верасня | "Спадарожнік" (Рэчыца) | Маладзечна |
| 22 | 15 верасня | Маладзечна | "Вікторыя" Мар'іна Горка |
| | 15 верасня | Ашмяны БДУФК | Івацэвічы |
| 23 | 22 верасня | Горкі | Малазечна |
| 24 | 29 верасня | Маладзечна | "Энергетык-БГАТУ" Мінск |
| | 29 верасня | СМІаўтатранс (Смалявічы) | Ашмяны БДУФК |
| 25 | 6 кастрычніка | Ашмяны БДУФК | Клецк |
| | 6 кастрычніка | Івацэвічы | Маладзечна |
| 26 | 13 кастрычніка | Маладзечна | Ашмяны БДУФК |
| 27 | 20 кастрычніка | СМІаўтатранс (Смалявічы) | Маладзечна |
| | 20 кастрычніка | Ашмяны БДУФК | Будпром (Гомель) |
| 28 | 27 кастрычніка | "Нёман-Агра" Стоўбцы | Ашмяны БДУФК |
| | 27 кастрычніка | Маладзечна | Клецк |
| 29 | 3 лістапада | Ашмяны БДУФК | Узда |
| 30 | 10 лістапада | Рух (Брэст) | Ашмяны БДУФК |
| | 10 лістапада | Будпром (Гомель) | Маладзечна |

* Паколькі дзве каманды з нашага рэгіёна ўдзельнічаюць у другой лізе, то каляндар даём на дзве каманды: "Маладзечна-ДЮСШ-4" і "Ашмяны".



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Найменшая частачка рэчыва, якая захоўвае яго асноўныя хімічныя ўласцівасці.
3. З яго робяць шкло.
6. Сталіца Калумбіі.
8. Спыненне прытоку крыві ў выніку спазмаў артэрый, іх закупорвання, а таксама ачаг амярцвення сардэчнай мышцы, які ўзнікае пры гэтым.
9. Пісьмовая або вусная згода, дамоўленасць.
12. Прадмет мэблі ў выглядзе высокай стаячай скрынкі з дзвярамі, які служыць для захоўвання чаго-небудзь.
14. Выраб з тканіны або шарсцяных нітак для захутвання шыі.
16. Высокая ступень натхнення, захаплення, душэўны ўздым.
17. Менавіта яно вінаватае ў тым, што вада ў моры падаецца сіняй.
18. Процілеглае адказчык.
20. Аслабленне напружання.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Пачуццё вялікай асалоды, задаволенасці, якое выклікае вясёлы настрой.
4. Караткевіч: “У савана няма ...”.
5. Імя жонкі Мікалая II да мірапамазання.
6. Яго хвост падобны да вясла.
7. Перспектыўнае скарачэнне формы прадмета, якое зменьвае яго звычайныя абрысы.
10. Спаборніцтва камандаў на скорасць, калі на пэўнай частцы дыстанцыі бегуна або плыўца змяняе яго таварыш.
11. Адсутнасць адзінства, адпаведнасці, згоднасці.
13. Менавіта гэту зброю закопвалі індзейцы ў знак прымірэння.
14. Сукупнасць касцей, якія ствараюць цвёрдую аснову цела чалавека і жывёл.
15. Які від мастацтва выкарыстоўвалі старажытныя людзі, каб выклікаць дождж.
16. Выцяжка з раслін ці моцны настой на спірце, у кіслаце і пад., які ўжываецца ў медыцыне, касметыцы.
18. Першыя літары імя і імя па бацьку або імя і прозвішча, радзей імя, імя па бацьку і прозвішча.
19. Менавіта ў ім знаходзіцца атрута ў кобры.
21. Медыцынскі інструмент – цыліндрык з поршнем і іголкай для ўвядзення ці адсмоктвання вадкасці.
22. Сумесь тлушчу з лекавымі сродкамі для ўціраня ў скуру або для намазвання яе.
23. У паліграфіі — папярэдні ўзор, пробны экзэмпляр кнігі, газеты.

## Адказы на крыжаванку з №16

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 3. Каза. 4. Чэрава. 5. Кацёл. 6. Болю. 11. Ціск. 13. Рысь. 14. Ганцавічы. 15. Цеста. 16. Канада. 18. Еўра. 19. Інтэрферон. 21. Чарада. 25. Імігрант.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Пошта. 2. Крэва. 3. Кабул. 7. Цюльпан. 8. Калгас. 9. Ігрэк. 10. Юбілей. 12. Скура. 17. Цела. 20. Ідэал. 22. Півоня. 23. Кампанент. 24. Калыхаць. 26. Іней.

## Мінскі абласны драматычны тэатр. Рэпертуар на май

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

**СПЕКТАКЛЬ-БЕНЕФІС У ГОНАР 50-ГОДДЗЯ ВЯДУЧАГА МАЙСТРА СЦЭНЫ АЛЕГА ЧЭЧАНЕВА**
“№13” 16+ (камедыя ў 2-х дзеях), Рэй Куні
3 мая – у 19:00

**ДА ДНЯ ВЯЛІКАЙ ПЕРАМОГІ**
**“Памяць, за сабой пакліч...”** 12+, *Сяргей Карзей*
4 мая – у 18:00,
8 мая – у 16:00

**РАНІШНІ СПЕКТАКЛЬ**

ДЛЯ СЯМЕЙНАГА ПРАГЛЯДУ Ў ГОНАР ДНЯ СЯМ’І
**“Кошкі-мышкі”** 3+ (казка-гульня па матывах п’есы А.Хайта “Дзень нараджэння Ката Леапольда”), *Аркадзь Хайт*
15 мая – у 11:30

**“Сямейны партрэт с пабочнай асобай”** 16+ (камедыя ў 2-х дзеях), *Сцяпан Лабазёраў*
15 мая – у 19:00
ПРЭМ’ЕРА. **“Ну, вы даяце!”** 16+ (камедыя на матывах сучаснай драматургіі)
18 мая – у 19:00
ПРЭМ’ЕРА. “**Некалькі пралётаў уверх**” 18+ (трагікамедыя ў 2-х дзеях), *Радзівон Аўчыннікаў*
24 мая – у 19:00
ПРЭМ’ЕРА. “**Час Сэканд Хэнд**” 16+ (дакументальная драма), *Святлана Алексіевіч*
30 мая – у 19:00

**РАНІШНІ СПЕКТАКЛЬ**

ДЛЯ СЯМЕЙНАГА ПРАГЛЯДУ Ў ГОНАР ДНЯ АБАРОНЫ ДЗЯЦЕЙ
“**Залатое сэрцайка**” 3+ (спектакль-гульня па матывах казак У.Арлова), *Святлана Навуменка*
1 чэрвеня – у 18:00

У РАМКАХ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ФЕСТЫВАЛЮ ПЕСНІ І ПАЭЗІІ “МАЛАДЗЕЧНА-2018”, ПРЫСВЕЧАНЫ ГОДУ МАЛОЙ РАДЗІМЫ
“**Вечар**” 12+ (лірычная драма), *А.Дудараў*
8 чэрвеня – у 18:00

Тэатр мае права на замену спектаклю.
***Маладзечна, вул.Чкалава, 7.***
Кантактныя тэлефоны:
**52-30-66** – намеснік дырэктара,
**52-30-68** – галоўны адміністратар,
**52-30-65** – каса.
E-mail: modt@tut.by,
www.theatre-modt.by

УНП 600066659

## ГАРАСКОП 27 КРАСАВІКА – 3 МАЯ



**АВЕН.** Назначайце на гэты час адказныя перагаворы і публічныя выступленні, не адмаўляйцеся і ад удзелу ў канферэнцыях і семінарах. Шмат каго чакае павышэнне ў пасадзе.



**ЦЯЛЕЦ.** Будзьце стрыманыя ў сваіх жаданнях. Ёсць высокая верагоднасць перагнуць палку ў адносінах з блізкімі – не будзьце чэрствыя і залішне патрабавальныя да людзей, бо гэта зусім не пойдзе на карысць ні ім, ні вам.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вы раздражняецеся, а ўсё з-за таго, што вам пачынае здавацца, што вы няправільна выбралі другую палавінку. Але ўсё не так. І не трэба думаць, што нехта некаму павінны цалкам падпарадкоўвацца.



**РАК.** Вы самі тварэц свайго шчасця, і гэтыя дні лепшы доказ гэтаму. Не пасуйце перад цяжкасцямі – у вас будуць усе сілы, каб іх пераадолець, трэба толькі паверыць у гэта і захацець.



**ЛЕЎ.** Вы можаце адпачыць, пафантазіраваць, памарыць. Магчыма, у вашым асяроддзі знойдуцца людзі, якія захочуць перакласці свае праблемы на вас. Не будзьце мяккасардэчныя, навучыцеся казаць “не”.



**ДЗЕВА.** Не будзьце такія запальчывыя і нецярплівыя, бо гэта не садзейнічае ўзаемаразуменню ні з калегамі, ні з блізкімі. Добра яшчэ што вас здаровы розум утрымлівае ад неабдуманых учынкаў.



**ШАЛІ.** Каб не зведаць пачуцця глыбокага расчаравання, не займайцеся самакапаннем. Адпусціце тое, што было, падзякуйце ўсяму добраму, што прыйшло да вас, і жывіце сённяшнім днём. Вучыцеся радавацца жыццю.



**СКАРПІЁН.** Не распачынайце нічога новага, калі не паспелі завяршыць назапашаныя неадкладныя справы. Больш уважліва прыглядзьцеся да навакольных людзей, іх ідэі могуць аказацца своечасовымі і арыгінальнымі.



**СТРАЛЕЦ.** Вы, як заўсёды, на кані. Нават калі хто лічыць, што вы не маеце рацыі і робіце не так, як трэба, – для вас не мае ніякага значэння чужое меркаванне, у вас свая галава на плячах, якая кажа, што вы робіце ўсё правільна, і іншага не можа быць. Такая ўпэўненасць у сабе ў спалучэнні з добрай энергетыкай дазволіць вам шмат каго перацягнуць на свой бок. А адсюль і вынік – усе справы пойдуць як па масле.

**КАЗЯРОГ.** Вучыцеся давяраць людзям, не прыніжайце іх. І ўвогуле вядзіце барацьбу са сваімі негатыўнымі рысамі характару, асабліва яўнай перавагай над іншымі.





**ВАДАЛЕЙ.** На вас нахлыне хваля, што ў нейкі момант вы можаце адчуць сябе адзінокім і ўсімі пакінутым чалавекам. Вам трэба будзе прайсці мноства выпрабаванняў (тэст у вучобе ці сумоўе на рабоце), якія вы пераадолееце, але выматаюць яны вас парадкам. Настрой таксама радаваць не будзе. На шчасце, такі стан пратрымаецца толькі гэтыя дні, не больш.



**РЫБЫ.** Не думайце пра людзей дрэнна, шукайце ў кожным становучыя бакі, недахопы ігнаруйце. Цярпенне і добразычлівасць, хоць і не проста іх праяўляць, акупяцца сто разоў.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 7 | | | 5 | | | |
| | | | | 1 | 2 | 5 | | |
| 8 | | | | 7 | | | | 3 |
| 6 | | | 3 | | | 4 | | |
| | | | | 8 | | 9 | 6 | |
| | | 8 | | 6 | 4 | | | |
| 7 | | | 1 | 4 | | 2 | | |
| | | | | 9 | | | 3 | 1 |
| | 1 | | 7 | 2 | 3 | | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by

Найлепшая рэгіянальная газета года 2017

Найлепшая рэгіянальная газета года 2015

тэлетыдзень

● НАДВОР'Е

## 28 красавіка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +8 / +11 | | +6 / +15 | | +12 / +22 | | +14 / +23 | |
| | 739 | → 4 | 743 | ↗ 4 | 742 | ↗ 4 | 740 | ↑ 6 |
| Вільня | +4 / +11 | | +4 / +15 | | +10 / +19 | | +13 / +25 | |
| | 745 | → 6 | 748 | ↗ 3 | 748 | ↗ 1 | 745 | ↑ 7 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 5.41
Захад 20.39
Даўжыня дня 14.58

Усход 18.36
Захад 5.40
Квадра 2

● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -3 °C у 1978 годзе
Максімальная тэмпература +24,2 °C у 2000 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 20 мм у 1985 годзе
Паводле meteoinfo.by




## Чытайце праз тыдзень

● **Вучым чытачоў чытаць "жыроўкі". На прыкладзе адной з іх разбіраемся, за што мы плацім па тарыфах, якія субсідзіруюцца, а за што – па эканамічна абгрунтаваных тарыфах.**



### Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№17)

1. Імя, прозвішча____________________
2. Дата нараджэння ____________________
3. Клас
   Школа____________________
4. Населены пункт____________________
5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі
6. Прадмет, за які атрыманая адзнака ____________________
7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")__________
8. Дата атрымання адзнакі ____________________
9. Імя, імя па бацьку ____________________
10. Прозвішча настаўніка ____________________
11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам__________
12. Подпіс настаўніка____________________

## Атрымай планшэт да летніх канікулаў

Калі вы хочаце выйграць да летніх канікулаў патрэбную для адпачынку і вучобы рэч – планшэт, – далучайцеся да нашай акцыі.

У акцыі могуць удзельнічаць 12-гадовыя школьнікі школы ці гімназіі рэгіёна.

Вы можаце дасылаць адзнакі, зробленыя цягам усяго года, але на кожную адзнаку неабходны асобны бланк. Бланкі, на якіх больш за адну адзнаку, не прымаюцца. Удзельнічаюць толькі бланкі, выразаныя з газеты.

Той, хто дашле найбольш бланкаў, атрымае планшэт. Вучні з класа, якія былі самыя актыўныя, пойдуць усе разам у піцэрыю.

Калі ў вас ёсць пытанні па акцыі, задавайце іх нам па пошце, тэлефоне 53-78-04 ці ў сацыяльных сетках.

Перадавайце бланкі ці дасылайце па пошце кожны тыдзень, і вы будзеце сярод тых, хто прэтэндуе на невялікія дадатковыя падарункі.

Прымаецца адзнака па любым прадмеце, атрыманая за 2017-2018 навучальны год.

Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by: rh.by/by/457/50/18289/.

Бланкі дасылайце на адрас: 222307, г. Маладзечна, вуліца Вялікі Гасцінец д. 143, ГЦ "Тройка", офіс 518, "Рэгіянальная газета".

**Аддзел інфармацыі.**

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Што самае незвычайнае ці запамінальнае вы елі?



**Аляксандр Кучко, прыбіральшчык тэрыторыі:**
– Ну, што можа запомніцца лепш, чым дранікі з мясам?



**Ніна Ваўчок, пенсіянерка:**
– Не ведаю, наколькі гэта незвычайна, але добрая страва – халадзец. Гатую яго ўжо шмат гадоў.



**Дыяна Шыдлоўская, псіхолаг:**
– Варэнікі з крэветкамі. Гэту страву каштавала ў Варшаве.



**Раман Цімафееў, кіроўца:**
– Даўно хацеў пакаштаваць вараных ракаў. Пакаштаваў, нарэшце, як быў у Растове. Аказалася, у іх і есці няма чаго.



**Вікторыя Ткачова, выкладчыца:**
– З экзатычных – розныя арэхі і ўсходнія ласункі. А з простых – селядзец пад шубай.



**Наталля Мялешка, намеснік загадчыка аптэкі:**
– Самай запамінальнай была тая заціркa, якую некалі варыла мне ў дзяцінстве мая бабуля.



**Вольга Воінская, музыкант:**
– У 13 год у Германіі першы раз каштавала сапраўдны венскі пірог. Праз нейкі час і ў нас з'явіліся. Праўда, крыху не такія. У нашых – замарожаныя ягады, а ў сапраўдных – свежыя.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№17 (1200) 27.04.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА "РоллПрынт", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 72. Падпісана ў друк у 9.00 26.04.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.